ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ

# СМІ ў БЕЛАРУСІ

№ 2 (52)
ТРАВЕНЬ–ЛІПЕНЬ
2017





ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»

WWW.BAJ.BY

*Быццам бы наяўнае прыцясненне свабоды СМІ ў нашай краіне – гэта клішэ з арсеналу мінулага. У век інтэрнэту гэта ўвогуле пазбаўлена ўсялякага сэнсу. А ў развіцці інтэрнэту і яго дасяжнасці вы нас ніколі не папракнеце.*

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка***

*Не адбылося ніякіх зменаў у сістэме нарматыўнага рэгулявання, заснаванай на ліцэнзаванні і рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі прызначанымі дзяржавай органамі і самім урадам… Шматлікія журналісты працуюць без акрэдытацыі, паколькі сістэма накіраваная на тое, каб забараняць і крыміналізаваць любую журналісцкую дзейнасць шляхам пазбаўлення акрэдытацыі.*

***Спецдакладчык ААН па пытанні пра становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Міклаш Харашці***

# Становішча ў галіне СМІ ў траўні–ліпені 2017 г. (агляд)

Пасля заканчэння масавых акцыяў пратэсту “гарачай вясны” 2017 г. зменшылася і колькасць затрыманняў журналістаў. У разгляданы перыяд зафіксавана 5 падобных затрыманняў, якія скончыліся ў адным выпадку адміністрацыйным арыштам на 10 сутак, а ў двух астатніх штрафамі (за сакавік, на які выпаў пік пратэстных акцыяў, было зафіксавана 95 затрыманняў журналістаў).

Нягледзячы на тое што да траўня хваля масавых пратэстаў зменшылася, працягнуўся судовы пераслед журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі, які аднавіўся ў сакавіку 2017 г. пасля гадавога перапынку. На працягу траўня–чэрвеня 2017 г. суды 14 разоў штрафавалі журналістаў, чые матэрыялы з’яўляліся ў замежных медыях, на падставе часткі 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за “парушэнне парадку вырабу і распаўсюду прадукцыі СМІ”.

У большасці выпадкаў пераслед зазнаюць фрылансеры, якія супрацоўнічаюць з польскім тэлеканалам “Белсат”, што працуе для беларускай аўдыторыі. Аднак не толькі яны.

Працягваецца расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да трох беларускіх аўтараў шэрагу расійскіх інфармацыйных рэсурсаў Юрыя Паўлаўца, Дзмітрыя Алімкіна і Сяргея Шыпценкі. Іх абвінавачваюць у распальванні нацыянальнай варажнечы (арт. 130 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь).

Сярод станоўчых падзеяў разгляданага перыяду – вяртанне ў дзяржаўныя сістэмы распаўсюду ўраздроб і па падпісцы дзевяці недзяржаўных грамадска-палітычных выданняў, якія былі выкінутыя з кіёскаў “Саюздруку” і падпісных каталогаў “Белпошты” 11 год таму (гл. папярэдні электронны бюлетэнь).

# Асноўныя падзеі ў галіне СМІ ў траўні–ліпені 2017 г.

## Затрыманні журналістаў

1 траўня падчас асвятлення пратэставых акцыяў у Брэсце і Гомелі былі затрыманыя 3 журналісты, адзін з якіх, Зміцер Гарбуноў (Брэст), быў асуджаны да 10 сутак адміністрацыйнага арышту за "непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі".



Гомельскага журналіста Кастуся Жукоўскага затрымлівалі двойчы, 10 траўня ў Буда-Кашалёве і 21 ліпеня ў Гомелі. У першым выпадку яго аўтамабіль быў блакаваны міліцыяй на дзве гадзіны, у другім – яго затрымлівалі супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі. У выніку журналіст быў аштрафаваны за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі, а таксама пазбаўлены кіроўчых правоў на 1 год.

Усяго за першыя 7 месяцаў 2017 г. ГА "БАЖ" зафіксавала 100 выпадкаў затрыманняў журналістаў сілавікамі.

## Штрафы за супрацоўніцтва з замежнымі медыямі

Працягваўся пераслед беларускіх журналістаў-фрылансераў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Журналістаў караюць штрафамі на падставе міліцэйскіх пратаколаў

паводле адвольна трактаванай часткі 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за “парушэнне парадку вырабу і распаўсюду прадукцыі СМІ”.

За травень – ліпень суды штрафавалі журналістаў і блогераў 14 разоў, а ўсяго за першыя 7 месяцаў года – 27 разоў. Гомельскія журналісты Ларыса Шчыракова і Кастусь Жукоўскі былі аштрафаваныя з пачатку года адпаведна 4 і 5 разоў на агульную суму, тоесную 3700 еўра, што параўнальна з сярэдняй гадавой зарплатай у Беларусі. Грамадская актывістка Юлія Малышава была прыцягнутая да адказнасці ў Воршы за стрым-рэпартаж у абарону жывёлаў, які трансляваўся ў сацыяльнай сетцы “Аднакласнікі”.



Магілёўскі журналіст Уладзімір Лапцэвіч быў аштрафаваны за публікацыі ў польскай газеце “Ніва”, хаця выдавочна не выробляў і не распаўсюджваў прадукцыю гэтага СМІ (наклад або частка наклада газеты, паводле беларускага закона “Аб сродках масавай інфармацыі”), што патрабуецца для прыцягнення да адказнасці згодна з арт. 22.9 КаАП.

## Крымінальная справа за “распальванне нацыянальнай варажнечы”

Пачынаючы са снежня 2016 г. пад вартай знаходзяцца беларускія аўтары шэрагу расійскіх інфармацыйных рэсурсаў Юрый Паўлавец, Дзмітрый Алімкін і Сяргей Шыпценка. Ім прад’яўленае абвінавачанне паводле ч. 3 арт. 130 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (наўмысныя дзеянні, учыненыя групай асобаў, накіраваныя на распальванне нацыянальнай або іншай сацыяльнай варажнечы), якое прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 5 да 12 год. Падставай для ўзбуджэння крымінальных справаў былі звароты Міністэрства інфармацыі ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь пра наяўнасць у публікацыях гэтых аўтараў прыкметаў праяваў экстрэмізму.

“Рэпарцёры без межаў” адзначалі, што “артыкулы гэтых трох блогераў з’яўляюцца спрэчнымі, але гэта не апраўдвае іх зняволенне. У адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі іх часовае затрыманне не з’яўляецца ні неабходным, ні прапарцыйным”.

# Рэйтынгі, індэксы, статыстыка

## Freedom House: У Беларусі адзначаныя станоўчыя зрухі ў галіне свабоды прэсы

Паводле ацэнкі арганізацыі Freedom House, Беларусь пакінула дзясятку найгоршых краінаў з пункту гледжання свабоды слова. Як і раней, яна знаходзіцца сярод несвабодных дзяржаваў, але ў параўнанні з мінулым годам набрала на 8 адмоўных балаў менш (83 замест 91 з 100, дзе 0 – найлепшая сітуацыя, а 100 – найгоршая).

Freedom House адзначыла, што ў 2016 г. журналісты змаглі асвятляць парламенцкія выбары са значна меншымі перашкодамі, чым раней. Аднак на працягу года ўлады працягвалі выкарыстоўваць абмежавальную прававую базу для ціску на крытычную журналістыку, пераследуючы супрацоўнікаў СМІ паводле абвінавачанняў у дыфамацыі, распальванні нянавісці, экстрэмізме і нелегальным вырабе кантэнту.

## Рэйтынг адкрытасці беларускіх ведамстваў

ГА "БАЖ" апытала журналістаў пра тое, наколькі лёгка ім атрымоўваць інфармацыю ад асноўных дзяржаўных ведамстваў і арганізацыяў.



Удзел у апытанні ўзялі 50 аўтараў вядучых дзяржаўных і недзяржаўных выданняў: "Советская Белоруссия", "Звязда", "Наша Ніва", "Комсомольская правда" в Белоруссии", TUT.BY, БелаПАН і інш. Максімальныя ацэнкі атрымалі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, сістэма судоў Беларусі, Міністэрства спорту і турызму, Міністэрства лясной гаспадаркі. Найбольш закрытымі журналісты назвалі Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце Беларусі, Міністэрства інфармацыі і Камітэт дзяржаўнай бяспекі.

